 




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (1092) ГОД XXII БЕЛАСТОК 30 СТУДЗЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.



СНЕЖНАЯ ІМПРЭСІЯ

*Ты куды мяне клічаш,*
*паслухай? —*
*На дварэ ні машын ні людзей.*
*Завіруха мяце, завіруха...*
*Белы снег,*
*Белы цень,*
*Белы дзень.*
*Я іду за табой,*
*як сляпая,*
*Патрапляю ў замецены след.*
*Засыпае нас снег, засыпае.*
*Белы снег,*
*Белы след,*
*Белы свет.*

*Як паходня,*
*твой шарф ружавее.*
*І вакол —*
*ні вачэй, ні вакон.*
*На зямлі —*
*я і ты,*
*і завея,*
*Белы снег,*
*Белы клён,*
*Белы сон...*

**Генадзь Бураўкін**

## З невычэрпных крыніц

Прызнаюся, што сам я ўспрымаю творчасць **Войцеха Залэнскага** як своеасаблівы раманс, змест якога складаюць з піетызмам сабраныя ім народныя легенды і паданні ў самых глыбінях Кнышынскай пушчы, музыку — выпеставаныя яго разцом арыгінальныя формы, а слухачоў — незлічоны натоўп задуменных дрэў-волатаў.

Самастойны шлях творчых пошукаў В. Залэнскі пачаў яшчэ будучы вучнем Супрасльскага пластычнага ліцэя. Яго, юнака, што нарадзіўся ў 1943 г. у Гродна, а ўзгадаваўся ў Элку, заўсёды цягнула на вакацыйныя вандроўкі на Дуброўшчыну, Сакольшчыну, Беласточчыну і іншыя ваколіцы. З іх прыносіў ён, апрача безлічы ўражанняў, поўную кайстру замалёвак краявідаў, народнага будаўніцтва, помнікаў старажытнасці твораў народнага мастацтва. Асабліва ўразілі яго прыдарожныя крыжы і на іх кутыя з жалеза нашчытнікі. Гэтыя паходы працягваліся і потым, калі ён ужо быў студэнтам Мастацкай акадэміі ў Гданьску, і выніку гэтых шматгадовых пранікнёных пошукаў завяршыліся ў ягонай магістэрскай працы **„Народны помнік на Беласточчыне“**. Адразу пасля заканчэння школы, у 1970 г., В. Залэнскі вяртаецца ў Супрасльскі пластычны ліцэй, ужо выкладчыкам разьбы, і адначасова актыўна ўключаецца ў дзейнасць беластоцкага мастацкага асяроддзя. Зразумела, зусім не пакідае, а наадварот увесь той свой час, які ён толькі здолеў вылучыць з настаўнічання ды разьбы, цалкам прысвячае збіранню і даследаванню вуснай народнай творчасці Кнышынскай пушчы і яе ваколіц.

— Для мяне як мастака, — заўважае В. Залэнскі, — вынікі маіх фалькларыстычных даследаванняў тутэйшых ваколіц прынеслі велізарныя здабыткі. Сцвердзіў я, што народныя помнікі — курганы, прыдарожныя капліцы і крыжы — спакон веку размяшчаліся ў прасторы паводле тых законаў мастацтва, якія толькі ў нядаўнія часы акрэсліла навука. Знайшоў таксама непасрэдную сціслую сувязь і пераемнасць паміж дагістарычнымі помнікамі, у асноўным курганамі, і цяперашнімі народнымі помнікамі — прыдарожнымі капліцамі, крыжамі і г.д. Адкрыў, што ў нашым народным мастацтве з незвычайнай дасканаласцю выкарыстоўваюцца ўжытковыя функцыі матэрыялаў і формаў, для прыкладу: наша народная кераміка, якая, між іншым, з'яўляецца працягам найлепшых і найдасканальшых форм, выпрацаваных ганчарамі на працягу многіх стагоддзяў. А што ўжо казаць пра наша цудоўнае ткацтва?! Пераканаўся я, што ў гэтых ваколіцах адбываецца спрадвечнае ўзаемаўздзеянне мазавецкай і беларускай народных культур з вялікай карысцю для нашай рэгіянальнай культуры, бо ў выніку гэтага паў-

(Працяг на стар. 4)



*„Спаленец“ В. Залэнскага.*



*Мгр Войцех Залэнскі.* *Фота М. Гайдука.*

## Сяржанаўская ніць залатая

Ярка асветлены прасторны завадскі клуб. З левага боку расселіся за столікамі маладыя рабочыя, а направа занялі месцы старэйшыя, сярод якіх шмат ветэранаў працы з ордэнамі і медалямі на грудзях.

Пасярэдзіне — у шарэнту, як салдаты ў час пераклічкі — стаяць яны, самыя малодшыя. Чакаюць урачыстай хвіліны ўводзін іх у велізарную сям'ю рабочых **Прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Язэпа Сяржана ў Беластоку.** Паспяваю запісаць некаторыя прозвішчы: Веслава Тачыдлоўская — натыкачка, Галіна Вярбіцкая — ткачыха, а затым — Галіна Жох, Міраслаў Бастак, Багдан Галэмбёўскі і ўсе іншыя, што закончылі прафесіянальную школу, каб стаць кваліфікаванымі рабочымі, сяржанаўцамі, тэкстыльшчыкамі.

*„Мы, новыя рабочыя, на гэты ордэнаносны завадскі сцяг прысягаем...“*

Прысягаюць яны быць працавітымі, жыць у сяброўстве, актыўна ўдзельнічаць ва ўсялякіх грамадскіх чынах, з гонарам насіць завадское званне — **рабочы-тэкстыльшчык.** Цырыманіял працягваецца...

Дык я гляджу ў той бок, дзе за столікамі сядзяць сяржанаўскія ветэраны. **Станіслаў Мушынскі,** якому цяпер 80 гадоў, пачынаў сваю рабочую аўтабіяграфію 14-гадовым хлапчуком.

— Як вас прымалі на работу? — звяртаюся да яго, а ён хвіліну глядзіць на мяне моўчкі, а затым крадком абцірае няпрошаную слязінку, якая сплывае па яго глыбокіх маршчынах.

— Было нас у бацькоў чацвёра. Аб школах і навуцы ніхто нават і не думаў, бо хлеба нам не хапала. Дык як толькі споўнілася мне 13 гадоў, бацька завёз мяне ў Васількова, дзе ўдалося дзякуючы падтрымцы знаёмых уладкаваць мяне на нейкі тэрмін на невялічкую суконную фабрыку, у якой сукно ткалі яшчэ ўручную. Працавалі мы там ад світання да захаду сонца, а найгорш было зімой, бо ніколі чалавек не ведаў, калі пачынаецца дзень, а калі ён канчаецца і трэба было рабіць так доўга, як гэтага жадаў майстар, або і сам уласнік.

*„Стучи, стучи, машина,*
*Играй, играй, челнок.*
*Солнце ещё высоко,*
*Длинной ещё денёк...“*

Гэтую папулярную сярод тэкстыльшчыкаў песню спявалі мы, каб не заснуць над станком, каб неяк дачакацца да адбою. А пасля ад стомленасці звальваўся я ў сваю бярлогу і спаў да світання на гэтай жа самай фабрыцы, бо яе ўласнік за тое, што пільнаваў я яго маёмасць, дазволіў мне спаць на фабрыцы. На досвітку прыходзілі рабочыя і зноў трэба было за станок...

Вось як прымалі мяне на работу. Ніхто тады не наладжваў такіх урачыстасцей... Каб ано гэтыя маладыя патра-

(Працяг на стар. 5)

## Беларускі каляндар-77

І вось перада мною новы „Беларускі каляндар“ на 1977 год пад рэдакцыяй Мікалая Гайдука. Углядаюся ў вокладку, якая дыхае яшчэ свежым пахам фарб, і захапляюся яе арыгінальнасцю. Задума цікавая — акно сялянскай хаты, упрыгожанае разьбой, у шыбінах якога адбіваецца світанне, перададзенае перамешкай чорна-чырвоных колераў. Аўтар вокладкі, відаць, палічыў, што каляндар з'яўляецца нічым іншым, як новым днём у хату. Але, памінаючы арыгінальнасць задумы, нечага тут не хапае. А не хапае яшчэ аднаго пераходнага колеру. Світанне — гэта не толькі чырвань і чэрнь.

Раскрыем гэтае акно і глянем, што ўлятае ў хату. Які будзе дзень? Паглядзім, што нясуць гэтыя 192 старонкі. Адкрываем на чацвертай і пятай — і бачым прыгожа зроблены надпіс — Студзень. Так, гэта пачынаецца каляндар. Апрача свят і імянін знойдзем тут час усходу і захаду сонца ў даны дзень, важнейшыя гадавіны і здымкі прац беларускіх савецкіх мастакоў. Змешчаны таксама і кароткія творы беларускіх пісьменнікаў. Падборка добрая. Кожны літаратурны твор тэматычна звязаны з месяцам. Але ёсць адна засцярога. З творамі беларускіх аўтараў можна сустрэцца ўсюды і заўсёды. І каго яны цікавяць, той напэўна возьме іх і прачытае. Ці не карысней было б замест іх увесці нешта з народнага? Ну, прыкладна: народнае лячэнне, гумар, народны каляндар, прыказкі, або хаця нават загадкі. Гэта ж такая глыбокая крыніца, што напэўна паўтарэнні нястрашныя. Але гэта не закід. Гэта толькі мая ўласная думка.

Пойдзем далей. Перад намі раздзел „На ніве БГКТ“. Тут трэба сказаць, што мінулы 1976 год быў багаты важнымі падзеямі, а менавіта збегліся: 20-ая гадавіна дзейнасці БГКТ з VIII яго з'ездам. Мінулы год быў таксама дваццатым годам дзейнасці „Нівы“. У сувязі з гэтым вышэй згаданы раздзел з'яўляецца найбольш аб'ёмістым, а заадно і вельмі цікавым. Знойдзеце тут вобраз прамысловага і сельскагаспадарчага развіцця Беласточчыны, даведаецеся аб плане далейшай дзейнасці на гэтай ніве і аб укладзе беларусаў у гэтае развіццё. Цікава таксама прадстаўлены дваццацігадовы шлях дзейнасці БГКТ.

(Працяг на стар. 4)

## Праз тыдзень у „Ніве“

**Звыш сарака год солтысам ● Курыць, ці не курыць? ● Навагодні дванцаты (варшаўскі баль) ● Дарога ў сем стагоддзяў ● Новыя вершы „белавежцаў“ ● У ЛЗС-аўцаў Бельшчыны ● Люблю вёску (з агаворкай) ● Дзе Мітрафан Ф. хавае гропы ● Весткі са Спічкоў, Тапчыкалаў, Лукі, Міхалова, Грушак, Гуран, Белавежы, Нараўкі, Астроўка, Слойкі ● Калі сніцца сад ● Песня „Gdzieś w sercu na dnie”.**

 

 

# З невычэрпных крыніц

(Працяг са стар. 1)



стаюць тут непаўторныя, арыгінальныя з'явы. І прызнаюся: разам з тым, як у маіх зборах пухнуць папкі з безліччу замалёвак з натуры і прыбываюць дзесяткі кіламетраў магнетафоннай стужкі з запісамі песень і легенд, усё больш умацоўваецца ва мне перакананне аб невычэрпнасці гэтай бязданнай крыніцы. Пры гэтым я раблю для сябе важны вывад: у дахрысціянскую эпоху славяне мелі вельмі людны пантэон багоў і надзвычай багатую сімволіку. Гэтага не спажыткавала нашае мастацтва.

— І што гэта дае вашаму разцу?

— Вельмі канкрэтны матэрыял, — сцвярджае В. Залэнскі. — Дагэтуль у сваёй разьбе я ўвасобіў многа пераўтварэнняў тых фальклорных вобразаў, сімвалаў і элементаў, што спрадвечна спадарожнічаюць чалавеку ад яго нараджэння і да скону. Заўважу тут, што гэта проста фенаменальнай каштоўнасці матэрыял. Затым, іншыя народныя песні, легенды і паданні натхнілі мяне да стварэння шэрагу кампазіцый, між іншым, песня аб матцы святога Юрыя — скульптуры „Яравіта", казка аб чортавым вяселлі — „Клабук", легенда пра каню — „Каня і Ціхая" і шэраг іншых. Не гавару ўжо пра безліч тых надзвычай цікавых адкрыццяў са звычаяў, вераванняў, маральных правіл і іншых цудоўных рэчаў, якія можна спазнаць толькі ў непасрэднай сувязі з жыхарамі ваколіц, што звязаны з пушчай і завуцца „лесунамі", і мясцін, аддаленых ад лесу і званых „запольнікамі". Напрыклад, пра той вугал у хаце, што завецца „покуцце", я даведаўся столькі незвычайных цікаўнасцей, якіх хапіла б расказваць на працягу некалькіх дзён! Або ведзьмы і ведзьмары. Гэта ж тэма-рака без канца і краю!..

І ў навучанні і выхаванні моладзі ў нашым ліцэі і ў сваёй працы з разцом у руцэ я імкнуся выказваць і адначасова фармаваць у сваіх выхаванкаў, а таксама і ў гледачоў зацікаўленне, пашану і любоў да гэтага чароўнага куточка нашага краю.

Вяртаючыся з сустрэчы з магістрам Войцехам Залэнскім — дырэктарам Супрасльскага пластычнага ліцэя і з блуканняў па чашчобах Кнышынскай пушчы — натхняльніцы яго творчасці, я затрымліваюся на пагорку каля Краснага, дзе знаходзіцца статуя „Спаленец". Ахвяраваў яе В. Залэнскі ўсім наведвальнікам Кнышынскай пушчы ў напамін. У гэтым творы мастак увасобіў пашыраную на Беласточчыне легенду пра паходжанне блукаючага агеньчыка.

Паводле яе аднойчы адзін сусед у злосці падпаліў другога суседа. Была якраз ноч, згарэлі не толькі будынкі, але і спячыя ў хаце гаспадар з усёй сям'ёю. За гэтае злачынства падпальшчык быў цяжка пакараны: ахоплены полымем ён бегае ад адной крыніцы да другой, каб знайсці ратунак ад спапяляючага жару. Аднак вада пры адным яго паяўленні хаваецца пад зямлю, і злачынца не ў сілах аблегчыць сваю жудасную долю. І будзе ён так бегаць векі вечныя. А каб пераканацца ў гэтым, даволі вечарам ці ноччу ўбачыць на багнах блукаючы агеньчык. Гэта і ёсць той вечны пакутнік — злачынец-„спаленец", постаць якога і паставіў В. Залэнскі пры самым ўездзе з Беластока ў пушчанскую гушчу.

Патрасаючы і перакананьны ўспамін...

**Мікалай Гайдук**

# Беларускі каляндар-77

(Працяг са стар. 1)

Знойдзеце таксама характарыстыку пасобных календароў. У далейшым раздзеле пазнаёмімся з жыццём і дзейнасцю Сяргея Філіпюка, вядомага на Беласточчыне дзеяча на грамадска-культурна-асветніцкай ніве, якога забрала з нашых радоў трагічная смерць.

Наступны раздзел „У Беларускай ССР" — гэта збор разынак з Беларускай рэспублікі. Складзены вельмі прадумана. Не мае ён вузкага адрасата. Накіраваны да ўсіх і, несумненна, усіх зацікавіць, пачынаючы ад дзяцей, а канчаючы на старых.

Ну і нешта роднае, якое скрываецца ў раздзеле „Люблю наш край". Раздзел як цэласць цікавы. Апрача звестак аб мінулым і сённяшнім пачатковай школы № 3 ў Бельску ды багата ілюстраванага здымкамі рэпартажа з Цялушак, пазнаёміць ён чытача з гісторыяй дзейнасці Завочнай настаўніцкай студыі, аб якой расказвае былы яе дырэктар Ян Радзюкевіч, а таксама з жніўнымі абрадамі і песнямі, змешчанымі ў артыкуле М. Гайдука „Ой волока, волока..." Можа адзін сказ пра апошняе. Артыкул пераплятаецца здымкамі дажынкавых вянкоў з паасобных мясцовасцей. Убачыце іх арыгінальнасць і прыгажосць. У канцы артыкула знойдзеце дзесяць жніўных песень з нотнай транскрыпцыяй.

Ну і наблізіліся мы да літаратурнага палетка. У гэтым годзе ён чамусьці скупенькі. Змяшчае толькі сем твораў. Чаму? Не думаю, што наступіў недахоп пішучых. „Белавежа" аб'ядноўвае намнога больш, чым 7 аўтараў. Але з тых, што ёсць, варта звярнуць увагу на К. Бандарука і Ю. Генюша. Гэта лаўрэаты мінулагодняга літаратурнага конкурсу.

Можа яшчэ некалькі слоў пра раздзел „З мінулага". Апрача артыкула В. Рудчыка „Ад супольных крыніц", які разлічаны на чытача, якога цікавілі б польска-беларускія сувязі на ніве культуры, ёсць тут цікавы матэрыял, які пераносіць чытача ў першыя стагоддзі старажытнага Бельска, а таксама артыкул А. Бергман, дзе раскрывае яна жыццёвы і творчы, а таксама рэвалюцыйны шлях члена КПЗБ Леапольда Родзевіча.

Знойдзецца нешта і для спевакоў. Змешчана чатыры песенькі з нотным запісам. Малавата.

Каляндар закрываюць факта-лікавы даведнік пра Беласточчыну і табліцы расплоду і цяжарнасці жывёлы ды хатняй птушкі.

Беручы каляндар як цэласць трэба сказаць, што нягледзячы на дробныя хібы і недахопы з'яўляецца ён цікавым, і думаю, што кожны ў ім нешта для сябе знойдзе.

**Міхась Шаховіч**

**У гміне Васількоў**

## Найбольш актыўныя

У гміне Васількоў дзейнічае чатырнаццаць пярвічных партыйных арганізацый (ПОП) з лікам 305 членаў. У мінулым годзе гэтая гмінная арганізацыя павялічылася на 34 кандыдатаў партыі, у асноўным рабочых і сялян.

Актыўнасцю вылучаюцца ПОП: у вёсцы Студзянкі і ў Васількове.

Трынаццаціасабовая ПОП у вёсцы Студзянкі павялічылася на двух кандыдатаў. Гэта адна з самых актыўных арганізацый, у саставе якой найбольш сялян, перш за ўсё добрых гаспадароў. Працай партарганізацыі ўжо трэцюю кадэнцыю кіруе сакратар Анна Кардынская. На працягу двух гадоў ПОП прыняла ў свае рады пяць чалавек.

З пяці членаў і дзесяці кандыдатаў складаецца зараз партыйная арганізацыя ў васількоўскім кааператыве сельскагаспадарчых гурткоў. Членамі і кандыдатамі партыі з'яўляюцца тут найлепшыя рабочыя. Першым сакратаром гэтай арганізацыі выбраны Вінцук Шыманюк, яе заснавальнік, вопытны партыйны дзеяч.

ПОП пры ГС у Васількове складаецца з пятнаццаці членаў і трох кандыдатаў партыі. У апошнім часе прыбыло ў арганізацыю сем асоб. Працу ў арганізацыі ўжо другую кадэнцыю вядзе Антаніна Багусловіч, былая актывістка маладзёжнай арганізацыі. (ця)

## НОВЫ ГАНДЛЁВЫ ДОМ

30 лістапада мінулага года здадзен у эксплуатацыю гандлёвы дом у Сакольцы. На першым і другім паверсе ў ім багаты выбар харчовых прадуктаў і прамысловых тавараў. Гандлёвая частка займае плошчу ў 500 квадратных метраў. У гандлёвым доме працуе 30 асоб персаналу. Пабудова гэтага аб'екта каштавала каля 17 мільёнаў злотых. Прадбачваецца, што сакольскі гандлёвы дом будзе прадаваць тавары на суму 3 мільёны злотых у месяц. (ця)




*Адна бібліятэкарша ў Беластоку калекцыяніруе знойдзеныя ў кніжках прадметы, якія служылі чытачам у якасці закладак. У гэтай асаблівай калекцыі некалькі дзесяткаў лязоў для галення, шматлікія фатаграфіі і паштоўкі (пераважна моцна раздзетыя жанчыны!), карты, медыцынскія пластыры, напаміны з фінансавых аддзелаў, рахункі за газ і электрычнасць. Ёсць таксама коп'я судовага прыгавору, а таксама копія характарыстыкі на працаўніка наступнага зместу:*

*„Грамадзянін А.О. сістэматычны ў працы, нягледзячы на схільнасці да іншага полу пад уплывам алкаголю".*

## Жанчыны з Гайнаўскай гміны

Сярод 26 гурткоў вясковых гаспадынь (у іх радах знаходзіцца 725 жанчын) у Гайнаўскай гміне найлепшымі КГВ з'яўляюцца КГВ у Арэшкаве, Махнатым, Чыжыках, Навасадах і Дубінах.

34-асабовы жаночы гурток у Арэшкаве ўзначальвае Надзея Грушэўская, якая апрача таго з'яўляецца раднай гміны. Арэшкаўскія кабеты ахвотна ўдзельнічалі і ўсе паспяхова закончылі курс у рамках грамадска-палітычнага абучэння жанчын. Заканчэнне заняткаў адбылося 13 студзеня гэтага года. На гэтую ўрачыстасць жанчыны падрыхтавалі для дэгустацыі мясныя і рыбныя вырабы.

Цяпер, зімою, рыхтуюцца яны да агляду „Беларуская песня — 77", на якім выступяць, як тут ужо заведзена, у колішняй народнай вопратцы.

Жанчыны з КГВ у Чыжыках, які працуе пад кіраўніцтвам Марыі Койлы, паспяхова праходзілі курс на званне кваліфікаванага гаспадара. Закончыла яго каля 20 асоб. Навесну зоймуцца яны калектыўнай гадоўляй куранят.

(ця)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА VII

**„Роднае карэнне".** Пісьменнік некалькі разоў вяртаецца да пытання сэнсу жыцця, магчымасцей навукі ў вырашэнні загадак, праблемы грамадзянскай паставы чалавека. Па сутнасці ўсе гэтыя пытанні паказаны эскізна, без катэгарычнасці і адназначнасці. Падаюцца яны праз прызму адчуванняў і роздумаў галоўнага героя твора Архіпа Лінкевіча. Але не толькі яго, бо і сялян неаднаразова мучаць „праклятыя пытанні" жыцця.

І героі апавядання, і сам яго аўтар кладуць націск на абмежаваны характар ведаў чалавека аб свеце і аб самім сабе. Хто даў першы імпульс руху зямлі, хто акрэсліў і абумовіў гармонію свету, чаму чалавек расце толькі да дваццаці год, ці існуе нейкая форма пасмяротнага існавання — усе гэтыя пытанні нуртуюць Архіпа Лінкевіча. Герой здае сабе справу, што навука, нягледзячы на свае бясспрэчныя дасягненні ў многіх галінах, не ў стане адказаць на ўсе пытанні, як у такой сітуацыі павінен паводзіць сябе чалавек. Верыць, ці сумнявацца? Па сутнасці ні героі твора, ні пісьменнік не даюць адказу на гэтыя пытанні. Можна думаць, што пісьменнік выказваецца за свабоду чалавека ў разуменні і інтэрпрэтацыі свету, бо калі ніхто нічога не ведае, то кожны чалавек, прадстаўляючы свае супрацьлеглыя погляды, мае аднолькавую рацыю. Толькі адкрыцці і вынаходніцтвы будучага пакажуць, хто меў рацыю, а хто не. Зыходзячы з такой пазіцыі, Архіп і, мабыць, таксама аўтар апавядання апрабуюць учынак дзеда, які „да смерці заўсёды крэпка маліўся богу і тым часам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных". Значыць, быў хрысціянінам і язычнікам, бо абедзве гэтыя супрацьстаўныя ідэі вабілі яго сваёй прыгажосцю або палохалі сваёй таямнічай суровасцю.

Усе гэтыя разважанні маюць філасофскі характар. Апрача такога тыпу роздумаў, у апавяданні вядуцца разважанні больш практычнага тыпу. Датычаць яны адносін інтэлігента да грамадскіх спраў, да патрэб сялянскага асяроддзя. Пісьменнік не ідэалізуе селяніна. Бачыць яго крыўду, выкліканую аб'ектыўнымі несправядлівымі класавымі адносінамі. Пры гэтым аднак ведае, што сялянскія беды — гэта таксама вынік суб'ектыўнай недасканаласці і схільнасцей жыхара вёскі. Пры існуючых умовах селянін мог жыць намнога лепш, чым жыве. І тут ён сам вінаваты. У гэтым практычным аспекце пісьменнік разглядае справу паставы інтэлігентаў сялянскага паходжання. Тут у поглядах Гарэцкага выступаюць элементы ідэалогіі рускіх народнікаў і польскіх пазітывістаў. Адзін з сялянскіх герояў апавядання гаворыць: „...трэба, каб бацькі ўкладалі ў галаву гэтым глупцам-вучням тое, што няхай яны не саромяцца нашых мужыцкіх меркаванняў пра божы свет слухаць, няхай сабе мы на погляд шэры, а, браце, душа можа быць і пад шэрым жупанам не шэрая" і далей: „А нашы хлопцы, што ў свет, у людзі йдуць, яны ад вёскі адпаўзаюць...".

Можна спытаць — чаму апавяданне называецца „Роднае карэнне"? Адказ просты. Для Гарэцкага чалавек, які выракся роднага — мовы, традыцый, свядомасці, перастае быць поўнавартаснай маральна асобай. Няма сумненняў, што аўтар салідарызуецца з прыведзенымі вышэй сялянскімі выказваннямі. Істота іх заключаецца ў тым, што інтэлігент вясковага паходжання мусіць карыстацца з духовага сялянскага багацця і, з другога боку, павінен сваёй практычнай дзейнасцю спрыяць паляпшэнню сялянскага жыцця. Няма сумненняў, што герой апавядання „Роднае карэнне" Архіп Лінкевіч будзе такім тыпам інтэлігента. Ён — верны сын сялянскай Беларусі.



 

## TERESA TUTINAS



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Аліна Галушэўская і Галена Артэмюк з Парцава.




Дарагое Сэрцайка, выйшла я замуж у 18 год. І то не па сваёй волі. Аддалі мяне бацькі, бо пасватаўся да мяне багаты хлопец. Ён старэйшы за мяне на 16 гадоў, але меў сваю хату ў горадзе і добра платную пасаду. А мы жылі бедна, ды дзяўчат нас чатыры было, а я найстарэйшая. Так і абдурманілі мяне, паслухала і выйшла. І сапраўды жыву багата, але не чуюся шчаслівай і багацце гэтае мяне не цешыць. Не падабаўся мне мой муж адразу і не прывыкла я да яго. Ужо тры гады жывем, а надалей чужы і абыякавы ён мне. Ды і дзяцей не маем. Да гэтага і скупы ён, за кожную залатоўку дрыжыць. Надакучыла мне гэта і захацела я свае грошы мець. Вось і пайшла на работу. Сярод людзей весялей. Ды вось тут пачала я сябраваць з хлопцам. Яму 27 гадоў, яшчэ не жанаты, вельмі мне падабаецца. Ён гаворыць, што каб я развялася з мужам, дык бы ажаніўся са мной. Я б ахвотна, але калі сказала бацькам — яны абурыліся, толькі бяды нарабіла. Слухаць нават не хочуць. Самой вырашыць цяжка, таму і звяртаюся за дапамогай да цябе, Сэрцайка.

Ірка з Беластока

Ірка, я згодна з табой. Жыць з чалавекам, якога не кахаеш, цяжка. Няма пачуццяў, няма і шчасця. А багаццем іх не заменіш. Развод тут неабходны. А пакольні і дзяцей у вас няма, дык лёгка яго будзе атрымаць. Маладая ж ты яшчэ. Варта направіць памылку і пачаць жыць нанава.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астрон! Сніцца мне, што я апранула белую, новую блузачку, якой ніколі яшчэ не апранала. Гляджу ў люстэрка, а мне ў ёй вельмі прыгожа, яна так прыгожа ляжыць каля шыі. Пасля я апынулася са сваім мужам на вёсцы. У той жа самай хаце быў мой колішні нарачоны. Ён вельмі прыгожа выглядаў. Раптам я з нарачоным апынулася ў нейкіх сенцах, дзе быў балаган, і там ён хацеў мяне прытуліць і пацалаваць. Аднак я вырвалася ад яго і выбегла на панадворак, дзе было вельмі сонечна і прыгожа.

І ў тую самую ноч снілася мне яшчэ, што я разам са сваёй мамай хадзіла па горадзе і шукала кветак — гваздзікі. На жаль, не магла знайсці. Падыходжу да знаёмай, якая прадавала кветкі, і бачу, што ў яе такія завяўшыя кветкі — ружы. Але я выцягнула з папяровага мяшка вельмі прыгожую ружу чырвонага колеру. Узяла гэту кветку, але плаціць ёй не плаціла, яна не хацела грошай. З гэтым я і прачнулася.

Чытачка

**Чытачка!** Вашы сны, як, пэўна, вы ўжо дадумаліся, добрыя. Прыгожая, новая вопратка абазначае поспех у вашых справах. На дадатак жа ваша блузачка была новая, белая і было вам у ёй вельмі прыгожа. Той балаган, які вы бачылі ў сенцах, абазначае для вас нейкую перамену, якая будзе для вас, бадай, карыснай, бо на двары, куды вы выйшлі (уцяклі ад фальшу — былы нарачоны ж хацеў вас пацалаваць), было сонечна і прыгожа.

У другім сне адчуваецца, што ёсць у вас нейкія клопаты (не маглі знайсці кветак, якіх вы шукалі — гваздзікі, а пасля ўбачылі сумныя, завяўшыя ружы). Усё, аднак, павінна скончыцца для вас добра, бо ўсё ж вы знайшлі ў мяшку чырвоную свежую ружу. Відаць, радасць і каханне ўзнагародзяць вам гэтыя клопаты, а можа атрымаеце нейкі прыбытак (мяшок жа не быў пусты...).

**Астрон**

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: К. аддаў зямлю дзяржаве за пенсію. Гмінная ўправа аддала зямлю ў карыстанне Я., які не толькі загарнуў усю зямлю, але і прысядзібны ўчастак, які прыслугоўвае К., а пры гэтым дакучае яму. К. звярнуў дзяржаве (ЗУС) грошы, якія атрымаў як пенсію, і патрабуе ад гміны звароту зямлі, але праўленне гміны не хоча гэтай справы вырашыць. Што мае рабіць К.?

АДКАЗ: Гмінная ўправа мае абавязак загаспадарыць землі, перададзеныя дзяржаве за пенсію, і таму можа аддаць гэту зямлю ў карыстанне селяніну, які з гэтым справіцца. Той жа злоўжывае правам, калі апрача паверанай яму зямлі, парушае правы былога ўласніка, уваходзячы на ўчастак, які згодна з законам прыпадае былому ўласніку. Былы ўласнік можа звярнуцца ў гміну з просьбай, каб яны павучылі карыстальніка зямлі, што той не павінен нарушаць уладання, якое яму не прыслугоўвае. Можа таксама дамагацца праз суд аховы ўладання. Закон не прадбачыць магчымасці дэнансавання дагавору аб перадачы зямлі дзяржаве за пенсію. Зямля астаецца ўласнасцю дзяржавы, хоць бы ўласнік звярнуў пенсію, якую ён атрымаў, і дамагаўся звароту зямлі. Зварот пенсіі або адмова прыняць пенсію ніякага праўнага значэння не мае.

## Этнаграфічнае акенца



*Разьба ў дрэве на доме Яна Федарука з вёскі Пухлы.* *Фота М. Гайдука.*

**МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА**

## Загадка знікаючага народа

Прадстаўніцтва адміністрацыі прэфектуры Хакайда ў Токіо апублікавала даныя, згодна з якімі ў вёсках прэфектуры засталося ўсяго 1.600 прадстаўнікоў народнасці айну, якія яшчэ носяць традыцыйнае адзенне, гавораць на айнскай мове і захоўваюць у быце некаторыя спецыфічныя звычаі. Большасць з іх ужо старыя, і смерць гэтых апошніх хавальнікаў самабытнасці айну забярэ апошнія ключы да поўнай разгадкі тайны паходжання народа, які насяляў Японскія астравы задоўга да прыходу туды японцаў.

## Куток практычных ведаў

**У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ ЗДАРОВЫ І ДУХ**

### КУПАННЕ Ў ПАЛОНЦЫ

Зіма выдалася, як рэдка здаралася ў апошні час. Марозная! І як тут не паспрабаваць улезці ў палонку і не пакупацца, кажуць многія масквічы.

Для тых, хто не прастуджваецца, хто ў маладосці загартаваўся, можна і цяпер, зімою, купацца на свежым паветры. У маскоўскай секцыі аматараў купання ў палонцы каля 2000 членаў. Гэта так званы клуб маржоў.

У снежні, студзені можна сустрэць на рацэ Масква купаючыхся супольна ўнукаў і дзядоў, жонак з мужамі або нават і цэлыя сем'і.

Ці праўда, што купанне ў палонцы амалоджвае? Так, напэўна. Быў у мяне калісь у Маскве знаёмы, які ў 75 год ва ўсю купаўся зімою. Дажыў амаль да дзевяноста...

Менавіта не рух, а бязрух асабліва небяспечны ў пажылым узросце. Асабліва неабходна гэта людзям з павышаным ціскам крыві. Пешаходныя маршы, лёгкая гімнастыка, масажы, — усё гэта карысна ўплывае на абмен рэчываў, узмацняе мышцы і сэрца. Пульс ў пажылых людзей — 60-70 удараў у мінуту. Калі праз 3-4 мінуты пасля гімнастыкі пульс вяртаецца да нормы, значыць, усё ў парадку, можна рабіць гімнастыку.

Вельмі карысна таксама зімою ездзіць на каньках і лыжах.

**Эскулап**



*Маскоўскія маржы.*




...Батальён уварваўся ў Мендзыжэч і рухаўся цяпер да ўсходніх абаронных рубяжоў фашыстаў. Трэба было выйграць час, не даць немцам апамятацца і разгарнуцца для кругавой абароны. Такая была задума генерала Музыкіна. І дывізія ўсёй сваёй масай ужо навальвалася з усходу на нямецкія ўмацаванні. Артылерыя і мінамёты фашыстаў, відаць, так і не паспелі загаварыць. Арам чуў толькі аўтаматныя і кулямётныя чэргі. Абодва немцы з трывожным чаканнем глядзелі на яго. А плошча перад касцёлам апусцела. Толькі адзін афіцэр бег па ёй, раскручваючы катушку бікфордава шнура. Арам прыціснуўся да кулямёта і даў кароткую чаргу. Афіцэр нібы спатыкнуўся, прабег яшчэ некалькі крокаў і ўпаў. Арам, амаль не паварочваючыся, цераз плячо выстраліў спачатку ў аднаго, потым у другога немца. І своечасова. Аўтаматная чарга раскрышыла сцяну ў некалькіх сантыметрах ад яго. Салдат страляў, падаючы ўжо. Другі немец, курчачыся ад болю, поўз да карабіна пасярэдзіне пакоя.

— Ляжаць смірна! — скамандаваў Арам.

Пераканаўшыся, што другі салдат мёртвы, Арам зняў з яго рамень і туга звязаў рукі параненаму.

— Толькі адзін рух — і я зраблю з цябе рэшата, — спакойна паведаміў ён, адцягваючы раненага немца ў кут пакоя, так, каб можна было ўвесь час трымаць яго ў полі зроку.

Між тым, да кінутай катушкі бікфордава шнура перабежкамі набліжаліся тры гітлераўцы. Мірзаян адкрыў агонь і забіў усіх трох. Бліжэй падсунуў да сябе каробкі са стужкамі. Чакаць давялося нядоўга. Праз плошчу пацягнулася калона адступаючых фашысцкіх гаўбіц.

— Тры, чатыры, пяць, — механічна лічыў Арам.

Насустрач галоўнай машыне выскачыў аднекуль той самы унтэр, з якім Арам ужо меў справу сёння. Унтэр штосьці гаварыў, паказваючы рукамі то на касцёл, то на дом, дзе засеў Арам. З адной з машын саскочылі фашысты, пачалі адчапляць гаўбіцу. Арам зноў націснуў на гашэтку. Ён біў дакладна і эканомна. Машыны былі выведзены са строю ў першыя ж секунды. Цяпер пачыналася самае галоўнае. Трэба было пастаянна трымаць пад агнём „пятачок“ плошчы, дзе валялася катушка бікфордава шнура. Атакаваць на адкрытай плошчы фашысты, зразумела, і не думалі. Адысці яны цяпер таксама не маглі. Радыятары машын, іх шыны былі прабіты кулямі. І ад гармат фашысты ўжо не маглі адбегчы. Арам скошваў кожнага, хто высоўваўся з-за гаўбіц або грузавікоў, якія застылі на плошчы.

Пачынаўся бой, з якога для Арама не было выхаду. Бой, пра які ў франтавой газеце, напэўна, напісалі б: „з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка“. Адступіць, схавацца яшчэ ёсць час. Але ж Арам вярнуўся сюды не дзеля гэтага. Ён вярнуўся, прабраўся ў гэты дом і ляжыць цяпер ля кулямёта таму, што там, у касцёле, людзі, якіх фашысты хацелі ўзарваць, спаліць жывымі.

Яшчэ адна чарга. Яшчэ... І яшчэ... Арам біў, не перастаючы. Немцы таксама адкрылі страляніну і прымусілі Арама на нейкае імгненне адысці ад акна. Гэтага было дастаткова, каб развярнулася і выстраліла першая нямецкая гаўбіца. Снарад са свістам праляцеў над домам. Дзесьці збоку пачуўся выбух. Арам паглядзеў у кут, дзе ляжаў паранены немец. Той не варушыўся. І зноў пачалася гэта незвычайная дуэль: кулямёт супраць гаўбіц. Арам стараўся біць па прыслузе, што падносіла снарады. Паступова ўсё больш фігур у шэрых шынялях нерухома застывалі на плошчы...

Немцы больш не рабілі спроб падпаліць шнур. І Арам зразумеў. Яны не зробяць гэтага, пакуль знаходзяцца на плошчы. Выбух змяце іх саміх. Цяпер на душы стала лёгка. Зараз у яго аднаадзіная мэта — трымаць іх тут як мага даўжэй. Да апошняга дыхання, да канца!

План наступлення Арам ведаў вельмі добра, каб спадзявацца на дапамогу тут, на плошчы ля касцёла. Ачысціць горад у задачу разведчыкаў не ўваходзіла. Іх мэта — ударыць з тылу.

...З гіканнем і свістам на плошчу ўварваліся коннікі на ўпараных конях Добры дзесятак гранат выбухнулі адначасова. Немцы кінуліся ўрассыпную. А коннікі, размахваючы шашкамі, насіліся за імі. Здалёк усё гэта было падобна на кадры нейкага незнаёмага кінафільма, дзе будзёнаўская кавалерыя вядзе наступленне.

Да гаўбіцы пад'ехаў і не спяшаючыся злез з каня кавалерыст.

— Чорт! — уголас сказаў Мірзаян, адрываючы рукі ад гарачага кулямёта.

— Габрыэл. І дзе толькі коней раздабыў, нягоднік! Ну, чорт! Вася-джан! Дзякуй!..

**(Працяг будзе.)**

